


DISTRICTUS

# ПАВЕТ



ВЫДАННЕ
КРАЯЗНАЎЦАЎ
БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 9 (22)
ВЕРАСЕНЬ
2003 г.


## АСЕНЬНІ ВЕЦЕР

Асеньні вецер зноў гайсае
Па жоўтым ляніўчы палян.
Мятуць бярозы валасамі
Нябёс запылены дыван.

Лісьцё рабін, крушыны, бэзу
Палае медзьдзю і агнём.
Над сьвежым ворывам гарэзіць,
Ваюе з ветрам вараньнё.

І дзіўнай солдзьдзю кладзецца
Зноў на душу асеньні дым.
Гарыць пявучым смуткам сэрца,
Як плаўкім золатам сады ...

Я страсянула раньнем сінім
З сябе ўчарайшых спраў цяжар,
Знайшла свой шлях ...
Іду з краінай
Пад новы плён араць папар.

І хоць упарта, аднастайна
Пляткарыць вецер у гальлі, –
Я паасеньняму спакойна
За прышласць роднае зямлі.

*Натальля Арсеньнева*

# ВЕСТКІ

4 верасня ў Браслаў завіталі ўдзельнікі навукова-творчай канферэнцыі "Дарога да святыняў з Благадатным Агнём ад Гроба Гасподня", прымеркаванай да Дня беларускага пісьменства. Гасцей на ўскраіне горада віталі вернікі, прадстаўнікі ўладаў. Пасля мітынгу ўрачыстая працэсія рушыла да праваслаўнага храма, дзе пасля службы кожны мог запаліць свечку ад Благадатнага Агню.

Экспедыцыя пабывала таксама ў Іказні, дзе была асвечана царква ў імя Св.Мікалая. Удзельнікі экспедыцыі пазнаёміліся з гарадзішчам Замкавая Гара, наведалі музеі горада.



Каманда Браслаўскага раёна, у склад якой уваходзілі вучні Друсвяцкай СШ, Опсаўскай СШ і Браслаўскай СШ № 1 была запрошана на фестываль пераможцаў Рэспубліканскай Эстафеты Памяці "Мір у XXI стагоддзі", які праходзіў у сталіцы краіны. Каманда, якая атрымала назву "Крок", заняла на гэтым фестывалі першае месца.



З 20 па 28 верасня сябры клуба аматараў жывой археалогіі прымалі ўдзел у найвялікшым у Еўропе фестывалі эксперыментальнай археалогіі, што праходзіў на базе Біскупінскага археалагічнага заказніка пад Познанню (Польшча). Кожны год фестываль змяняе тэму. На гэты раз ён меў назву "Індзейскае лета" і быў прысвечаны індзейцам Паўночнай Амерыкі. Удзельнічалі не толькі сапраўдныя індзейцы, але і шматлікія фаны індзейскай культуры з шэрагу краін. Была збудавана індзейская вёска, на тэрыторыі якой можна было пабачыць сцэнкі з побыту тубыльцаў Амерыкі. Фестываль прыцягнуў рэкордную колькасць наведвальнікаў – 93 тысячы чалавек.




Акрамя індзейцаў на тэрыторыі фестываля працавалі пляцоўкі з паказам традыцыйнай славянскай і іншых культур. Тут арганічна ўпісалася ў агульны фон "Паселішча крывічоў" з беларускага Браслава з рамёствамі і заняткамі XI – XIII стст.: ганчарствам, разьбярствам, даўняй кухняй, пісьменствам.

## *Юбілеі*



*20 верасня 2003 года – 100-гадовы юбілей славутай беларускай паэткі Наталлі Арсенневай, аўтаркі геніяльнага верша-малітвы "Магутны Божа", які з часам стане сапраўдным гімнам Беларусі. Як духоўны гімн, "Магутны Божа" часта выконваецца ў храмах нашай краіны. Руская па нацыянальнасць (яе далёкім прокам быў М.Лермантаў), Наталля палюбіла беларускую мову і засталася адданай ёй назаўсёды. Беларусь, яе народ, гісторыя, мова – вось асноўная тэматыка паэзіі Наталлі Арсенневай, паэткі бясконца дарагой і блізкай для кожнага беларуса.*

* * *

МАЛІТВА

Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,
Вялізных сонцаў і сэрц малых,
Над Беларусяй ціхой і ветлай
Рассып праменьне Свае хвалы.

Дай спор у працы штодзённай, шэрай,
На лусту хлеба, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
І нашу праўду, у прышласць – дай!

Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
Учынкам нашым – пашлі ўмалот.
Зрабі магутнай, зрабі шчасьлівай
Краіну нашу, і наш народ!

* * *



Старадаўняй
Літоўскай Пагоні
не разьбіць,
не спыніць,
не стрымаць!!!

Максім Багдановіч

**Вершы і ілюстрацыя з выдання: Н.Арсеньнева. Сягоньня. Вершы. 1941-1943. Менск. 1944**

# ВЕСТКІ

Неўзабаве ў Браславе з'явіцца жаночы праваслаўны манастыр. Пытанне аб яго адкрыцці ўжо ўзгоднена паміж царкоўнымі і свецкімі ўладамі. Размесціцца манастыр у самым цэнтры Браслава ў будынку былой лячэбніцы (колішняя бальніца Нарбута), узведзенай у пачатку XX ст. Гэта даволі вялікі будынак. У ім ужо пачалася падрыхтоўчая праца.

Вядома, што ў пачатку XVI ст. у Браславе ўжо існаваў жаночы праваслаўны манастыр, заснаваны на Замкавай Гары княгіняй Аленай, жонкай вялікага князя Аляксандра. Дзейнічаў той манастыр зусім кароткі час.



28 верасня ў Браслаўскім раённым Доме культуры прайшоў фестываль польскай песні. У ім удзельнічалі самадзейныя калектывы Браслаўшчыны, дзе польскае насельніцтва складае каля 25 %. Выступалі ўжо вядомыя за межамі рэгіёна фальклорны калектыў "Вярба" (Дрысвяты), вакальны гурт "Крэда" (Дрысвяты), дзіцячыя калектывы "Польскія кветкі" (Відзы), вакальныя групы са Слабодкі, Браслава. На канцэрце прысутнічала кіраўніцтва Саюза палякаў у Беларусі, першы сакратар польскай амбасады, кіраўнікі зямляцтваў выхадцаў з Браслаўшчыны ў Польшчы.



Непадалёку ад в.Каханішкі, у лесе, жыхар в.Зазоны Анатоль Храпан знайшоў пахаванне воіна Чырвонай Арміі часоў апошняй вайны. У гэтай мясцовасці ў ліпені 1944 г. н емцы стрымлівалі наступленне савецкіх часцей у бок горада Даўгаўпілса. Нямецкія салдаты займалі выгадныя пазіцыі на вяршынях шматлікіх пагоркаў і савецкія войскі несля вялікія страты. Самае дзіўнае, што пасля таго, як баі прасунуліся на захад, загінуўшых хавалі не пахавальныя каманды, а мясцовыя жыхары. Звычайна клалі забітых у акоп і прысыпалі зямлёй. Такіх магіл у наваколлі дзесяткі. Адзін са старажылаў адзначыў, што, каб перахаваць усіх савецкіх салдат спатрэбіцца сельсавет разабраць на труны. Горкая іронія. Знойдзены воін пахаваны неглыбока. Пры пахаванні на яго твар паклалі каску. Магчыма, пры поўных раскопках удасца ўстанавіць прозвішча. Пра знаходку апавешчаны ваенкамат.

## *Юбілеі*

*6 верасня 1903 года, 100 гадоў таму, у мястэчку Іказнь нарадзіўся Мікола Дварэцкі – чалавек з душой паэта. Удзельнічаў у беларускім нацыянальным руху, зведаў шмат гора і пакут, памёр у Польшчы, удалечыні ад Браслаўшчыны, якую вельмі любіў (артыкул Алены Глагоўскай, прысвечаны М.Дварэцкаму, быў змешчаны ў № 3 выдання "Павет"). Пісаў вершы для сябе, не мог спадзявацца на асобнае выданне. Друкаваўся толькі ў розных беларускіх перыядычных выданнях (у Польшчы пад псеўданімам М.Базылюк).*

*Машынапісны зборнік вершаў Дварэцкага, які падрыхтаваў другі нараджэнец Браслаўшчыны Мар'ян Пецюкевіч, атрымаў сімвалічную назву "Табе Браслаўшчына".*

* * *

### Сум па Радзіме

У старонцы чужой мне так цяжка тут жыць
Бо край свой радзімы ніяк не забыць.
Там родныя сцежкі і роднае поле,
Усё я пакінуў. Ах, доля, ты, доля!
Я рос у сямейцы бацькоў і братоў.
Са школы заўсёды спяшаў я дамоў.
А мама пытала:"Ну, як там было?
Ці ўсё на ўроках як трэба пайшло?"
А я ж быў выдатнік, стараўся як мог,
Як трэба, то часта слабейшым памог.
У беднай ды дружнай грамадцы я жыў,
У вялікім класе наймалодшым я быў.
Міналі гады, я ў свет вандраваў,
Там працы і хлеба сабе я шукаў.
І раптам вайна страсянула ўвесь свет.
Нясла яна многа няшчасцяў і бед.
Вайна мяне вырвала з Роднага Краю
І толькі ў думках там часта бываю.
Сяброў і ўсіх родных мне ўжо не спаткаць,
У старонцы чужой жыццё трэба канчаць.
А ўсё ж мне так хочацца ведаць усё,
Чым блізкіх маіх адарыла жыццё.

*Снежань, 1985 г.* ***"Ніва" №51, 19 снежня 1999 г.***

* * * * *

### Вераснёвы вечар

З поддыхам ночы чароўнай
Лодка на тонях плыла.
Ціша на плёсах азёрных
Рука не кранула вясла

Цені ад дрэў у задуме
Бераг абняўшы стаяць
У ночы чаруючым шуме
Мошак канцэрты грымяць.

Дзесці звінела гітара,
Тоны плылі над вадой,
Слухалі моўчкі імшары,
Шчупак танцаваў з укляёй.

Я песняй хацеў адазвацца
І выліць пачуцці душы
Нашто зорнай ночкі стыдацца
І гэтай чароўнай цішы.

А мо будуць лішнімі словы,
Што трэба, ноч скажа сама.
А човен не выдасць сасновы
Аб чым нашаптала яна.

Пераброддзе, 1942 г.

### Ці помніш

Ці помніш той вечар чароўны
Калі з табой разам былі?
Пад тоны начы селі ў човен
І з поддыхам ночы плылі.

Ці помніш як дрэвы глядзелі
Ў люстэрка крыштальнай вады?
На беразе сонным віселі
Набракшыя ўдзень невады.

Пад тоны гітары пявучай
Шчупак чарнавокі гуляў,
Змарыўшыся ў бухшце плавучай
Прыціхшы дабычы чакаў.

Ці помніш той човен сасновы,
Што ў далі незнаныя плыў
І вечар ціхі вераснёвы,
Што ў сэрцах каханне збудзіў?
Ці помніш?

Мёры, 1943 г.

# СВЯТАРЫ ЗАМОШСКАЙ ЦАРКВЫ

**Аляксандр Панцялейка**

Прыкметнымі асобамі ў кожнадзённым жыцці жыхароў здаўна з'яўляюцца святары. Многія з іх запамінаюцца не аднаму пакаленню тубыльцаў, пра іншых згадваюць дзесяцігоддзямі. Яны падавалі прыклад сваімі адносінамі да веры, да Бога і былі ў першую чаргу прыстойнымі людзьмі.

У гэтым матэрыяле чытач пазнаёміцца са святарамі Замошскай Петрапаўлаўскай царквы. У гэты пералік увайшлі святары, якіх на сённяшні момант удалося ўстанавіць. Для гэтага спатрэбілася пераглядзець шмат крыніц: архіўных дакументаў, перыядычных выданняў, штогадовых справаздачных дакументаў і інш. Шмат ін-фармацыі было вы-яўлена дзякуючы працы з дакументамі архіва Браслаўскай Свята-Успенскай царквы.

Але спачатку, нагадаем асноўныя крокі гісторыі храма. Вядома, што першы драўляны ўніяцкі храм быў пабудаваны ў 1765 г. на сродкі ўладальніка Замошша Станіслава Бужынскага. У дадатак царква атрымала 4,5 валокі зямлі, правы ўваходу ў лес і карыстанне азёрамі на царкоўныя патрэбы. У 1854 г. храм асвяцілі як праваслаўны. Паступова драўляная царква прыходзіла ў заняпад. Напачатку XX ст. з'явілася магчымасць пабудаваць новы каменны будынак. Трэба сказаць, што яго памеры былі даволі значнымі. Будаўніцтва было завершана ў 1909 г., кошт будоўлі склаў 18000 руб. Гэтыя грошы былі выдаткаваны сінаідальным упраўленнем. У поўнай меры храм адпрацаваў нядоўга. З надыходам фронту І-й сусветнай вайны амаль усё царкоўнае ўбранства і рыштунак былі эвакуіраваны ўглыб Расіі. У міжваенны час, у 1933 г., быў праведзены капітальны рамонт. Заняпад храма пачаўся ў гады ІІ-й сусветнай вайны і працягваўся ў 50-я гады.

Наступны перыяд гісторыі пачаўся ў 1993 г. калі на адбыўшымся сходзе мясцовых жыхароў было прынята рашэнне аб адбудове храма.



**Руіны Замошскай царквы. Фота З.Пазняка. з фотаальбома «Браслаўшчына». Мінск. 1970**

Хто служыў у царкве з 1765 г. па 1840 г. яшчэ давядзецца высветліць. Пакуль вядома прозвішча святара, які працаваў у Замошшы ў 1840 г. Гэта Іван Катлінскі. Ёсць звесткі што ў 1864 г. ён служыў у Іказненскай царкве. У 1844 г. сюды быў пераведзены Нікадзім Савіцкі. Духоўны сан святар меў з 1828 г. і ў Замошшы праслужыў да 1870 г. Менавіта пры ім царква стала праваслаўнай. Святар Савіцкі не з'ехаў з Замошша, а па ўзросту і стану здароўя выйшаў у запітат. Было яму на той момант 68 гадоў. Увесь час пры ім служыў псаломшчык Вікенцій Навіцкі.

У 1870 г. у Замошшы з'явіўся новы малады святар Ферапонт Патокаў, які толькі быў асвечаны пасля заканчэння вучобы. Яго жонкай стала верагодней за ўсё дачка былога святара Савіцкага Вольга. Праз два гады сюды быў прызначаны 52-х гадовы св.Мікалай Лебедзеў. У 1875 г. ён памёр і хутчэй за ўсё быў пахаваны на цвінтары царквы. Улетку 1875 г. святаром Петрапаўлаўскай царквы стаў Пётр Альхоўскі. Па адной з версій хуткая змена настаяцеляў храма паказвае на тое, што Замошскі прыход быў бедным і малым па колькасці вернікаў і святары тут надоўга не затрымліваліся. Тым больш, што і будынак царквы і дамы для прычта (святара і псаломшчыка) прыйшлі ў аварыйны стан. Падобныя праблемы і надалей неаднойчы падкрэсліваюць дакументальныя крыніцы.

На бліжэйшыя тры гады нам вядомы наступныя святары, якія змянялі адзін аднога: 1881–82 гг. – Келестын Галенкевіч; 1882-83 гг. – Андрэй Сінусаў; 1883 г. – Андрэй Міркловіч. Апошні затрымаўся ў царкве амаль на 8 год.

Пра наступнага святара вядома крыху больш. Ён адыграў для храма і ўсяго паселішча значную ролю. У 1891 г. у Замошша прызначылі 47-гадовага Уладзіміра Астапэўскага. Ён атрымаў адукацыю ў Літоўскай духоўнай семінарыі. Святаром стаў ў 1866 г. і атрымаў Перкавіцкі прыход Кобрынскага павета. З 1878 г. па 1881 г. працаваў у Ціхавольскай царкве . Пасля яшчэ 10 год служыў у Нараўскай царкве на Берасцейшыне. Яго сям'я складалася з жонкі, якая неўзабаве памерла, і 4 дзяцей. Памёр св.У.Астапэўскі 30 лістапада 1897 г. у Замошшы.

У 1898 г. месца святара заняў Мікалай Шэлепін, а ў 1905 г. Антоній Савіч. На жаль, аб ім пакуль што нічога невядома. Менавіта ў час яго святарства была пабудавана новая каменная царква ў 1909 г. Па некаторых крыніцах св.Савіч згадваецца ў 1910 г. У 1911 г. у Замошша быў перамешчаны 41-гадовы св.Вячаслаў Благавешчанскі, які адслужыў да 1914 г. Даволі доўгі тэрмін 1915-31 гады святаром у Замошшы быў Канстанцін Багаткевіч.

У часы 2-й Рэчы Паспалітай 9 ліпеня 1931 г. (па іншых дадзеных у 1932 г.- Рэд.) прыняў царкву св.Еўдакім Ракецкі. Ён нарадзіўся 1867 г. у мястэчку Радунь у сям'і селяніна. Атрымаў адукацыю сельскага настаўніка ў Маладзечанскай вучыцельскай семінарыі і пасля 11 гадоў адпрацаваў у гэтай якасці. У 1909 г. Е.Ракецкі стаў святаром Інтурскай царквы, у 1916 г. перамешчаны ў в.Княжына Вілейскага павета, а ў 1921 г. – у в.Крывічы таго ж павета. Нарэшце, святар атрымаў месца ў Замошшы. Працаваў ён тут і ў часы Заходняй Беларусі і пры савецкай уладзе (1939-41 гг) і ў час акупацыі. Маецца анкета, датаваная 1942 г., дзе згадваецца гэты святар. Далейшы яго лёс невядомы.

Ёсць звесткі, што напрыканцы вайны святара ў Замошшы ужо не было. Далей на працягу амаль 60 год Замошская Петрапаўлаўская царква святароў не мела. Будынак паступова разбураўся. Толькі ў пачатку 90-х гг. група мясцовых вернікаў вырашыла аднавіць храм. Пасля асноўных будаўнічых спраў у

Замошша стаў прязджаць святар айцец Георгій з Іказні. Апошнія колькі гадоў службы ў праваслаўных вернікаў вядзе браслаўскі святар -- айцец Анатоль.

Калі рыхтаваўся гэты матэрыял, удалося высветліць некаторыя звесткі аб пахаваннях, зробленных на цвінтары царквы. У гэтым вялікую дапамогу аказала бібліятэкар з Замошша Ганна Скур"ят. Па яе інфармацыі было 6 магіл. У двух былі пахаваны малалетнія дзеці св.Багаткевіча, які служыў у Замошшы 16 гадоў. Прыблізна 10 год таму наведаць гэтыя магілы прыязджала дачка святара з Мінску. Яшчэ ў адной магіле пахавана маці жонкі св.Багаткевіча, праўда, ёсць і іншая версія. Даволі цікава і тое, што ў адной з магіл пахаваны расійскі лётчык, самалёт якога ўпаў недалёка ад царквы ў канцы І-й сусветнай вайны.І яшчэ ёсць магіла ў вуглу цвінтара каля агароджы. У ёй пахаваны прыхажанін Дубіна, які хацеў быць такім чынам пахаваны. Для гэтага ён выкупіў кавалак зямлі ў агароджы.

Відавочна, што вывучэнне гісторыі Замошскай Петрапаўлаўскай царквы працягнецца. Наперадзе новыя факты, біяграфіі, падзеі

## З фундушовага запісу Антона Бужынскага для святара толькі што заснаванай Замошскай царквы. 24 красавіка 1761 г.

**... Станіслаў Антон з Бужына Бужынскі – кашталян смаленскі, паведамляе кожнаму, каму гэта ведаць трэба, што прызначае дадзеным добраахвотным вячыстым фундушовым запісам на вечныя часы наступнае. Паколькі, я кашталян, даведаўся аб тым, што ў маім войтаўстве Замошскім як мае людзі, так і іншыя непадалёку жывучыя, з прычыны значнай аддаленасці замошскага наваколля ад Іказненскай царквы, размешчанай на адлегласці каля трох міляў, а таксама з прычыны дрэннага даезду асабліва ўвосені і ўвесну, вельмі часта застаюцца без абрадаў хрышчэння, споведзі і іншых святых сакраментаў, сыходзяць з гэтага свету, многія людзі надзвычай рэдка наведваюць імшу, а некаторыя зусім не бываюць на імшы. Зыходзячы з гэтага задумаў у самім Замошшы дзеля памнажэння хвалы Госпада і Бога нашага, у святой Троіцы адзінага, дзеля ушанавання душ, святой крывёю адкупленых, пабудаваць і ўфундаваць царкву грэка-уніяцкага абраду са святаром. Калі з Божай дапамогай царква будзе паспяхова завершана, паўстане прыстойны будынак храма, для святара жылы дом з гаспадарчымі пабудовамі. Павінна быць набыта неабходнае царкоўнае начынне: келіх і місачка срэбраныя з пазалотай. Новыя строі святочныя два, трэці жалобны таксама новы ... два абрусы і іншыя патрэбныя рэчы. Прызначаю да даўніх двух валок на святара , прызначаных яшчэ камісарамі папярэдніх уладальнікаў Іказні Сапегаў, трэцюю валоку, якая ляжыць побач з тымі двума (раней на ёй мой падданы Богдзя жыў, а зараз жывуць мае падданыя замошскія Гасюль і Трухан). Валока прызначаецца з усімі сенажацямі, лясамі да іх належачымі. Асобна прыдаюцца 4 маргі сенажацяў размешчаных у адным месцы на балотах, што называюцца Змітровы, таксама абруб Арэхаўка (паўтары валокі) з двума падданымі. Адзін – гэта Пётр Пупін з сынам Янам жанатым і другімі, Пятром, Андрэем і Лукашам нежанатымі. Другі падданы – Марцін Пупін з сынам таксама Марцінам жанатым. Усе падданыя надаюцца з жонкамі і дзецьмі іх utriusque sexus і з паслушнымі павіннасцямі: гвалтаў з кожнай хаты у год на 9 дзён, чыншу па 11 тынфаў і 9 грошай, падрожчыны па 4 тынфы 28 грошай, за збор мёду ад пчолаў і за іншыя дробныя павіннасці, якія за гэта мелі перад дваром Іказненскім, адпрацоўка паводле патрэб розных адзін дзень на тыдзень з кожнай хаты. У двор Іказненскі падданыя павінны выплочваць падаткі: падымны і чолавы ў адзін узнос 4 тынфы з абодвух хат, выплата друйскім ксяндзам бернардзінцам у адзін узнос 2 тынфы з абодвух хат. Памяненыя падданыя гарэлку для дворных шынкаў вырабляць не павінны, а калі на вываз і продаж разам вырабляць задумалі б, тады капшчызну адпаведную плацілі б. Усё вышэй пералічанае да Замошскай царквы далучаю. Чатыры з паловай валокі з двума падданымі, з іх павіннасцямі на царкву і святара дарую на вечныя часы запісваю. Таксама святару і яго наступнікам дазваляю дровы на ацяпленне будынкаў, драўніну на рамонт старых і узвядзенне новых збудаванняў з лесу браць. Дазваляецца ўступ да возера, што пад самым паселішчам, але лавіць рыбу толькі брэднем, а не падвалокай. І апошняе, дазваляю святару ды яго наступнікам варыць на свае клопаты піва і вырабляць гарэлку, толькі не на шынк і не на вываз. Калі гэта правіла будзе парушана, дазвол на варэнне піва і выраб гарэлкі будзе скасаваны. Усё пералічанае павінна належыць царкве і святару з той яшчэ ўмовай, каб святар адзін раз у тыдзень святую імшу за душы Канстанціна і Эльжбеты адпраўляў, мяне грэшнага і патомства майго ў малітвах сваіх не забываў...**

Пераклад з польскай мовы паводле тэксту апублікаванага ў XII томе Актаў Віленскай Археаграфічнай камісіі.

Зусім нядаўна ў вёсцы Замошша адбылося непрыемнае здарэнне. Невядомыя знайшлі і звезлі адзін са званоў, якія былі знятыя з царквы і затопленыя ў возеры ў гады апошняй вайны. Пасля аднаўлення храма прадпрымаліся спробы адшукаць іх. У бягучым годзе прыцягнулі да гэтай справы групу аквалангістаў. Поспехаў аквалангісты не дабіліся. Зусім нядаўна на возеры зноў пачалі працаваць падводнікі, якія паведамілі вяскоўцам, што іх праца ўзгоднена са святаром. Адзін звон гэтым разам удалося адшукаць. Пасля гэтага аквалангісты зніклі. Святар ніякага дачынення да шукальнікаў не меў. Галоўнае зараз не даць магчымасць вывезці астатнія званы, якія належаць царкве і мясцовым вернікам.



А вось жыхар г.Даўгаўпілса Мікола Паўловіч падараваў царкве невялікі звон. Тым самым ён здзейсніў знакавы учынак і па праву заняў сваё месца ў гісторыі Замошскай Петрапаўлаўскай царквы.

*Экспедыцыі, пошукі, знаходкі*

**Вітаўт Ермалёнак**

# КРАЯЗНАЎЧАЯ ВАНДРОЎКА Ў КАЗАКОВА

Восенню плёнам сваёй працы ганарацца не толькі хлебаробы, але і сябры археолага-краязнаўчага гуртка "Арганаўты мінулага".

Мінае чарговы, 26-ы па ліку, палявы сезон "Арганаўтаў" і настае час падводзіць яго вынікі. Ён як ніколі быў "ураджайны" на знаходкі і адкрыцці. Дзякуючы нашым пошукам гістарычны музей СШ № 3 г.Мёры папоўніўся новымі цікавымі экспанатамі. Найбольш каштоўныя – кнігі XVIII – XIX стст. на польскай, лацінскай, рускай, французскай мовах; разнастайныя каменныя прылады працы: разцы, скрабкі, сякеры V – II тыс.да н.э. Унікальная знаходка шпількі X ст.н.э., адзінай на Беларусі. Гурткоўцы зрабілі шэраг разведак па роднаму краю: Дубашынскі Двор, Мілашова, Друя.

Аднак найбольш змятоўнай на адкрыцці стала вандроўка ў вёску Казакова і яе наваколле. Як заўсёды, падрыхтоўка да яе праводзілася грунтоўна. Маршрут вывучаўся не толькі па сучасных, але і па старых, пачынаючы з XVII ст., картах. У фондах музея разглядаліся экспанаты і дакументы з тых мясцін. Каштоўныя звесткі атрымалі ад былога настаўніка Мілашоўскай базавай школы Тычко Альфрэда Францавіча. Асноўнымі мэтамі вандроўкі былі не толькі пошук новых археалагічных помнікаў, але і даследванне месцазнаходжання сядзібы аднаго з пачынальнікаў беларускай літаратуры – Вайніслава Савіча-Заблоцкага – былога маёнтка "Багач", а таксама пошук экпанатаў для музея. Рэйсавы аўтобус даімчаў краязнаўцаў да прыпынку "Урбанава" – і тут нейкае здзіўленне: на старых картах назва вёскі гучыць інакш: "Гурбаны". Мясцовыя жыхары таксама называюць сваю вёску Гурбанава. Значыць, зноў мы бачым прыклад русіфікацыі беларускіх назваў у 40-я гады XX ст. Па дарозе ў Казакова гурткоўцы не прапусцілі ні аднаго прыдарожнага каменя: некаторыя з іх сапраўды былі з загадкавымі знакамі і выявамі. Гэтыя выявы былі зафатаграфаваны і зараз іх вывучаюць.

На старых картах па дарозе на Казакова знаходзім шэраг вёсак. Так, напрыклад, у вёсцы Рыжыя 100 гадоў назад жыло 123 жыхары: 65 мужчын, 58 жанчын. Побач існавала яшчэ адна вёска Рыжыя, дзе была карчма Федаровіча. Там было яшчэ 10 жыхароў. Зараз ад вёскі засталося тры паўразбураныя хаціны і – ніводнага жыхара. Па звестках, у в.Рыжыя жыў выдатны майстар Рубанік, які рабіў медны посуд. Але пры Польшчы паспрабаваў падрабляць злотыя і быў пакараны зняволеннем. З таго часу і атрымаў мянушку "Злотнік".

Вёска Казакова сустрэла забітымі вокнамі. З калісьці вялікай вёскі, дзе жыло амаль 400 жыхароў, за паўстагоддзя скарацілася да двух дзесяткаў. Шмат пацярпела вёска ад пажару 50-х гадоў XX ст. Але асноўная прычына, што знішчыла вёскі ў нашы дні, – калектывізацыя, канцэнтрацыя насельніцтва на цэнтральных сядзібах калгасаў.

Разбіўшы намёты ля зарастаючага Балагоўскага возера, "Араганаўты" пачалі праводзіць разведку ў наваколлі вёскі. Спачатку накіраваліся да ўзвышша з назвай "Цвінтар". Па ўспамінах Найды Валянціны Антонаўны мы даведаліся, што тут было пахаванне багатай паненкі, што ляжала ў цагляным склепе, як жывая. Аднак у 30-я гады XX ст. магіла была разрабавана, злодзеі былі злоўлены і атрымалі паўгода турмы. Падчас вайны мясцовыя жыхары хаваліся ад бомбаў і снарадаў. Пазней на пагурку святкавалі Купалле. Уважліва разгледзеўшы схілы "Цвінтара", старэйшы "арганаўт" Ермалёнак Антон выказаў меркаванне, што тут магло быць гарадзішча. Падчас пошуку меркаванне пацвердзілася: былі знойдзены фрагменты штрыхаванай керамікі. Зачыстка вала паказала, што гарадзішча мае культурны пласт да 50 см, адносіцца да позняга этапа культуры штрыхаванай керамікі – I – III стст.н.э. На жаль, помнік практычна страціў значэнне для навуковага даследвання: спачатку пахаванне, а пазней калгас рабіў тут сенажныя ямы – таму тут амаль не захаваўся культурны пласт.

Наступная разведка была на месцы былой сядзібы апошніх уладальнікаў маёнтка Казакова. Зараз мясцовыя жыхары называюць руіны назвай апошніх уладальнікаў – Багачовых – "Багач". А ўпершыню ўзгадваецца Казакова як уладанне Масальскіх яшчэ ў 1567 годзе, з 1649 года ім валодалі Рудаміны, 1699 – 1720 гг. – Брунавы,1720 – 1735 гг. – Невянглоўскія, з 1735 г. – Мірскія, у XIX ст. – Яржэмбскі. Ад старой сядзібы не захавалася нават падмуркаў. Але гурткоўцам удалося не толькі адшукаць месца старой сядзібы, але і вызначыць яе памеры: 11х60 м. Два ўваходы арыентаваны на ўсход, сам будынак выцягнуты з поўдня на поўнач. Падчас даследвання знойдзена кераміка XVI – XVII стст.

Апошняя сядзіба пачатку XX ст. Багачовых размешчана за 300 м. на поўнач. Па ўспамінах старажылаў Рубанік В.А., Смірновай Е.Ф. сядзіба мела два паверхі, прыгожыя ўваходы, калоны. Вакол вялікі парк і сад, дзе раслі разнастайныя дрэвы. Цяпер жа мы ўбачылі рэшткі парка і здзічэлага сада. Уражваюць скляпенні сядзібы, рэшткі лядоўні, якія займаюць вялікую плошчу. Усе старажыхары згадваюць, што апошнія гаспадары былі выдатнымі гаспадарнікамі. Была пякарня, булкі з якой карысталіся попытам у Мёрах, Друі. Яблыкі з саду вывозілі ў Пецярбург, Варшаву. Аб заможнасці сведчаць і руіны гаспадарчых пабудоў. Напрыклад, захаваліся рэшткі кузні памерам 8х10 м, вышыня 5 м, сцены і нават франтон былі змураваны з камянёў вагой да 200 кг. Каменнымі былі і канюшня, кароўнік і іншыя пабудовы, ад якіх засталіся толькі падмуркі або рэшткі слупоў. Апошнія ўладальнікі Фёдар і Івасаф Багачовы вывезены ў Казахстан. Пасля вызвалення жылі ў Краславе. Па перакананню старажылаў, жонка аднаго з іх прыязджала на сваю былую сядзібу і адшукала ў сутарэннях схаваныя залатыя манеты. Саўгас "Мёрскі" не здолеў па-гаспадарчы распарадзіцца будынкамі. Сядзібны дом быў разабраны для пабудовы школы ў Мальках (Браслаўскі раён). Зараз яна ўжо не існуе, знішчаны і іншыя пабудовы. Пры добрым гаспадары яны маглі стаяць стагоддзі. На месцы былой сядзібы знойдзены фрагменты кафлі XIX ст., керамікі, шкляныя вырабы, арыгінальны гузік і інш.

Чарговая разведка – пошук валуна, на якім абедаў Напалеон. Дзякуючы Сарокінай Яўфіміі Фёдараўне, мы адшукалі яго. Калісьці ён сапраўды знаходзіўся пры дарозе, якая была пабудавана расійскімі ваеннымі для таго, каб па ёй маглі рухацца рускія арміі ў Дрысенскі ўмацаваны лагер (зараз яго рэшткі ля в.Слабада Мёрскага раёна). Але ў народзе гэту дарогу да сённяшняга дня называюць

"французскай лініяй". Падчас меліярацыі камень быў зрушаны з месца і знаходзіцца за 300 м на паўднёвы ўсход ад хутара Целяшы. Зразумела, Напалеона тут не было, а вось салдаты дывізіі генерала Друта арміі Мюрата маглі абедаць. Існуюць і іншыя паданні. Напрыклад, аб нячыстай сіле, якая прыходзіць, калі на небе поўня, і заманьвае падарожнікаў зіхаценнем золата, а потым людзі вар'яцелі.

Сарокіна Я.Ф. паказала і кароткі шлях да былой сядзібы ў Панчанах (да 1958 г. Мёрскі раён – зараз Браслаўскі). Нягледзячы на тое, што ішоў дождж, дзень хіліўся да вечара, "арганаўты" зрабілі апошні марш-кідок і, напэўна, яшчэ і заблыталіся ў незнаёмай мясцовасці. Але трапілі на хутар Войса, дзе на дапамогу прыйшоў настаўнік інфарматыкі Ахрэмаўскай СШ Гайдзель Славамір Адамавіч. Ён не пашкадаваў свайго аўтамабіля і падвёз гурткоўцаў да месца былой сядзібы. Нягледзячы на позні час, краязнаўцы абследвалі рэшткі скляпенняў, вызначылі, што пабудова была ўзведзена ў XIX ст., на месцы больш старой сядзібы. Захавалася і некалькі дрэў старога парка. Пасля вайны тут яшчэ была школа, якая была зачынена ў 70-я гады XX ст. і будынак сядзібы быў разабраны. Вядома, што тут быў вялікі кнігазбор і прайшлі дзіцячыя гады В.Савіча-Заблоцкага, маці якога паходзіла з Мірскіх. Але ўжо ў канцы XIX ст. маёнтак належыў Мранговіцец. Напэўна, пры ім была і зроблена перабудова сядзібнага дома. На наступны дзень краязнаўчыя пошукі працягваліся.

Дзякуючы сустрэчы з Рубанікам С.Ю., было адкрыта яшчэ адно гарадзішча жалезнага веку. Сцяпан Юр'евіч апавядаў, што яго бацька пры Польшчы валодам пагуркам пад назвай "Чорная гара". Калі ён засеяў яе жытам, то яго вельмі ўразіла, што зямля была вельмі чорная. Тут краязнаўцаў было ўжо не ўтрымаць! Верная прыкмета гарадзішча – чорная зямля – культурны слой. Сапраўды, за 500 м на паўднёвы ўсход ад вёскі Казакова знаходзілася гарадзішча "Чорная гара" днепра-дзвінскай культуры V – III стст.да н.э. Круглая пляцоўка, памерам 100х70 м з крутымі схіламі, вышыня валоў – да 10 м.

"Арганаўты мінулага" не пакінулі без увагі і Багачоўскае возера. Нягледзячы на тое, што берагі яго вельмі багністыя, яно напалову зарасло, – на яго дне ўдалося знайсці старажытны човен, які напэўна стагоддзямі служыў мясцовым рыбакам.

На картах XIX ст. у Казакова пазначана наяўнасць капліцы. Гурткоўцы адшукалі яе месцазнаходжанне і вызначылі яе плошчу.

**Віктар Бунта**

# ПАЛЯЎНІЧЫЯ ЗА ВАЛУНАМІ

*Паверхня Віцебшчыны густа пакрыта самым разнастайным каменнем. Яно – усюды, яно – вораг і памочнік, а для дапытлівага вучонага яшчэ і адкрытая кніга, якая можа шмат чаго распавясці. Напрыклад, адкуль сюды трапіла, які шлях здзейсніла? А для гісторыкаў асабліва цікавымі будуць легенды і павер'і, звязаныя з валунамі, бо гэта рэха язычніцкіх часоў, калі валуны былі прадметамі пакланення. Вось па гэтых прычынах і шукаюць цікавыя валуны спецыялісты, абвяшчаюць іх помнікамі прыроды – з мэтай захаваць для нашчадкаў. Асабліва гэта актуальна для нашай Браслаўшчыны, якая становіцца ўсё больш прывабнай для турыстаў. Ва ўсім свеце турызм – залатая жыла. Іспанія, напрыклад, толькі на гэтым зарабляе сродкі, роўныя бюджэту Беларусі. А наш валунны фальклор, як пераканаўся аўтар, у дадатак да асаблівай прыгажосці гэтых ледавіковых гасцей можа зацікавіць любога цікаўнага.*

*Кансталінскія школьнікі з 1999 года дапамагаюць Інстытуту геалагічных навук НАН Беларусі працаваць над працягам праекта "Пошук рэдкіх геалагічных аб'ектаў для абвяшчэння іх помнікамі прыроды". Зараз мы ўжо вандруем не проста так, а шукаючы незвычайныя валуны, тым больш наш край на іх такі багаты – толькі ў ваколіцах сваёй школы юныя краязнаўцы адшукалі такіх цэлых восем(!). А што, калі такімі пошукамі зоймуцца ўсе больш чым 30 школ раёна?!*

*Вось кароткія замалёўкі самых цікавых момантаў нашых пошукаў гэтага сезона.*

### Возера ў лесе

Аўтобус прылыніўся за шыльдай "Мёрскі раён". Мы ўжо ў "вельмі блізкім замежжы". Ідзем па сухому чыстаму сасонніку. Спыняемся на начлег ля маленькага ляснога возера. Месца для бівака амаль ідэальнае. Ужо колькі гадоў ходзім па раёну, шукаючы валуны, – такой цудоўнай стаянкі не было. Мінус экспедыцый у тым, што не ты выбіраеш маршрут, а ён чакае цябе, таму і намёты прыходзіцца ставіць абы-дзе.


Пастухоў камень каля в.Варапаншчына
Фота В.Вінакурава. Менск.

ПОМНІКІ ПРЫРОДЫ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

### "Боская кара"

... Мусіць, у групе ёсць грэшнікі: дождж ідзе ўжо пятую гадзіну. Такая сітуацыя - добры інспектар падрыхтоўкі да пахода. Мокрае ўсё, што можа быць змочана. Думаю, што гэта група ў плане водаізаляцыі будзе ў наступны раз падрыхтавана на "выдатна".

### Загавораны клад

У в.Снегі Мёрскага раёна зайшлі да мясцовага дзеда-ветэрана распытаць на прадмет цікавых валуноў. Кажа – ёсць такія, на адным абедаў Напалеон, так і завецца "Абедкі", на другім выбіты чалавечы след. Запісваем інфармацыю. Пётр Міхайлавіч – ветэран, крыху ўспамінае Вялікую Айчынную вайну, у вачах – туга. Аўтар зарокся клікаць былых салдатаў у школу: цяжка глядзець на слёзы старых, з якіх выцягваюць успаміны, цяжка людзям успамінаць крывавы час сваёй маладосці. Жонка ветэрана аказваецца больш гаваркой і расказваючы аб камнях, пад якімі схаваны заклятыя скарбы, нечакана дадае, што яе дзядзька мусіць такі выкапаў. Не прынесла золата шчасця селяніну: шасцёра яго нашчадкаў на Браслаўшчыне і Мёршчыне трагічна загінулі. Трэба, мусіць, паспрабаваць зняць праклянцце, толькі трэба шукаць надзейнага калдуна, бо ксяндзы ад такіх "д'ябальскіх" штучак адхрышчваюцца.

### Гасцінныя Цяцеркі

У Цяцерках шукаем самых патрэбных мясцовых інфарматараў – паляўнічых, бо лепш ніхто не ведае мясцовых балот і хмызнякоў. Адна кабета падказвае: "Ёсць такі! Сапраўдны прахадзімец! Ды не бойцеся, ён тут усё прайшоў!" Жанчына не памылілася ў сваёй парадзе – Мікалай Папарацьевіч Андрэеў аказаўся сапраўдным краязнаўчым скарбам. Умомант усведаміў, што нам патрэбна, ясна і поўна паведаміў аб валунах, якія нам маглі б быць цікавымі і даручыў сыну Сяргею паказаць іх. Першая камлыга прывяла аўтара ў ціхае захапленне: 4 м даўжынёй, 3 м шырынёй, з чалавечы рост вышынёй – прыгажуня! А самае каштоўнае – расповед нашага інфарматара: "Бацька казаў, што даўно ў гэты камень ударыў гром, адкалоў кусок, які адкінула на метраў трыццаць. Во якая сіла! Таму мамкі не пускалі да яго дзяцей, казалі – раз у яго пярун б'е, значыць там нячыстая, у яе гром і цэліць". Сапраўды, у 30-ці м ад валуна Андрэеў С.М. (сын інфарматара – аўт.) паказаў валун, пародай падобны да веліканa, але ўзнік вялікі сумнеў, што гэта менавіта той асколак. Дарэчы, побач з "разбітым" камнем адколаты кавалак памерам 40x30 м. Усяго пачутага разам з памерамі (4 м!) дастаткова для абвяшчэння гэтага аб'екта помнікам прыроды.

Па дарозе, праслухаўшы лекцыю аб навуковай каштоўнасці валуноў, наш праваднік загарэўся і не паленаваўся паказаць яшчэ два "воось такія" камяні. Адзін трохі не дацягнуў па памерах, а другі не падвёў – 3,6 м па доўгай восі – ёсць яшчэ адзін помнік прыроды! Калі нас паслухаюць эксперты, назавём яго "Цяцеркаўскі Сяргееў камень" у гонар паказаўшага. Такі ўдалы дзень не мог кепска скончыцца. Лёс, добра падмачыўшы нас і нашы плечакі, даслаў анёла ў выглядзе добрай цёткі Іванаўны, якая пусціла нас у калгасны інтэрнат. Спаць давялося на падлозе, але ў цяпле і сухаце. Сама гаспадыня са Століна, тут на заробках, бо там працы няма. Калгас "шчодра" разлічыўся з работніцай тонай зерня, якое трэба яшчэ некуды збыць дзеля "жывых" грошай. Тут згадаць бы "светлыя" сталінскія часы...

Замест заключэння

*Шаноўны чытач! Калі табе вядомы валуны памерам больш 3-х метраў са знакамі, з якімі звязаны легенды або павер'і (кшталту «скарбаў», «нячыстай сілы» і г.д.), патэлефануйце, калі ласка ў Канстанцінскую школу (тэлефоны:2-71-07, 2-71-95) ці ў Браслаўскі музей (т.2-14-45).*

**Кастусь Шыдлоўскі**

# УНІКАЛЬНЫ ПОМНІК

Непадалёку ад Друі, каля в.Стэфанова, захаваўся цікавы гістарычны помнік – абеліск з крыжом, устаноўлены ў гонар маршала Польшчы і кіраўніка польскай дзяржавы Юзафа Пілсудскага. Помнік паўстаў у 1937 г. на высокім пагурку каля дарогі з ініцыятывы і на грошы мясцовых асаднікаў, людзей, якія бралі ўдзел у баях па аднаўленню незалежнасці Польшчы. За гэта яны атрымалі ў падарунак кавалкі зямлі каля дзяржаўнай мяжы з Латвіяй. У наваколлі Друі асаднікаў было шмат.

Атынкаваны і пабелены абеліск было відаць з латвійскага боку. Помнік аздабляла мармуровая шыльда. У час дзяржаўных святаў каля помніка адбываліся ўрачыстасці. У 1939 г. чырвонаармейцы збілі шыльду, трохі папсавалі паверхню абеліску, аднак помнік ацалеў.



Мясціны каля Стэфанова малалюдныя, вакол помніка вырас хмызняк, а потым і лес. Пра яго забыліся. Цяпер пра яго памятаюць у асноўным мясцовыя жыхары. Яго гісторыю распавяла Вольга Смулька, 1926 г.н., усё жыццё якой прайшло побач. В.Смулька нават згадала прозвішча майстра, які мураваў абеліск – Поляк. І яшчэ В.Смулька піша вершы па-польску, адзін з якіх прысвяціла помніку.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Пацўялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)